**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 03 (876) 19 студзеня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**У Валодзькаве "жанілі Цярэшку"!**
*Працяг на стар.4.*
Фота Ул. Скрабатуна.













**Падача абвестак па тэлефоне № 166**







## МНС інфармуе
**на 17.01.2017 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 58;
Гібель людзей – 15, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 1;
Гібель людзей – 0, з іх дзяцей няма

***

За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.





ISSN 2077-8023



## Талачынскі раён

# А ў людзей не запыталіся

■ Станіслаў Раманчук.

**У большасці дзяржаў свету даўно пераканаліся, што дзяржаўная ўлас–насць прайграе па эфектыўнасці гаспадарання прыватнай і эканомікай там не камандуюць.**

У нашай краіне па-ранейшаму вырашаюць ўзнікаючыя праблемы інакш, з-за чаго ўжо некалькі месяцаў кіпяць нежартоўныя страсці ў Талачынскім раёне. Там многія абурыліся, калі да самага прыбытковага прадпрыемства краю, мясцовага элеватара з 240 працуючымі, кіраўніцтва Віцебскай вобласці вырашыла далучыць даўжніка – Аршанскі камбінат хлебапрадуктаў. Аршанскі КХП завінаваціў сваім суседзям амаль 4 млрд. недэмінаваных рублёў. Калектыў элеватара захваляваўся, людзі сталі абурацца, бо добра ведаюць, што адбывалася ў райцэнтры з іншымі заводамі пасля розных рэарганізацый і пазбаўлення самастойнасці. Аршанцы ж цяпер сталі галаўным прадпрыемствам аднаго з чатырох новых буйных аграхолдынгаў Віцебшчыны. Да іх далучылі два буйныя стратныя прадпрыемствы мясамалпрама з даўгамі пад 40 млн. рублёў. За кошт прыбытковага элеватара ў абласным цэнтры вырашылі пераадолець частку праблем. З гэтай нагоды бурна днямі ў актавай зале прадпрыемства прайшоў сход, але пераканаўчых аргументаў на карысць гэтай ідэі работнікі элеватара так і не пачулі. Нават мясцовая газета "Наша Талачыншчына" напісала праўду, што калі ў абласным цэнтры чыноўнікі рыхтавалі сваё рашэнне, далейшы лёс людзей ніхто не ўлічваў. Падобнае аб'яднанне, калі яно адбудзецца, хутчэй усяго прывядзе да занападу з цягам часу аднаго з буйнейшых элеватараў краіны.

## Чашніцкі раён

# "Еўраопт" заняўся спіртам

■ Кастусь Александровіч

**Кожны дзясяты беларус штодзень наведвае магазіны вядучай айчыннай гандлёвай сеткі "Еўраопт".**

Аднак многія спажыўцы і не здагадваюцца, якой разгалінаванай і буйной яна стала, на сваім падкантрольным заводзе ў Брэсце выпускае такія папулярныя гатункі гарэлкі, як "Налібокі", "Сваяк" і іншыя, а таксама ўжо і ром, тэкілу, джын. Гэта кампанія сур'ёзна прыйшла і ў Чашніцкі раён, а на базе мясцовага праблемнага завода харчовых прадуктаў стварыла новае прадпрыемства "Чистый исток 1872". Гэты завод у райцэнтры стаў адзіным у Прыдзвінні летась, у якога з'явіўся новы гаспадар-прыватнік. Уладальнікі "Еўраопта" укладуць у адраджэнне мясцовага прадпрыемства 4 млн. рублёў, паабяцалі стварыць не меней 20 новых рабочых месц і захаваць профіль дзейнасці. Дарэчы, мінчане высветлілі, што калісьці ў Чашніках яшчэ за царскім часам выраблялі спірт высокай якасці і вырашылі адрадзіць ранейшыя традыцыі. Заснавальнікаў адроджанага спіртзавода выбралі па конкурсе, а ўстаноўчы сход працаўнікоў зацвердзіў рашэнне фонду "Віцебскаблмаёмасць". На працягу наступных двух гадоў плануецца новымі ўласнікамі правесці патрэбную мадэрнізацыю вытворчасці. Гандлёвая сетка "Еўраопт" у Беларусі між тым паспяхова развіваецца. Пад яе кантролем знаходзіцца ўжо 70 % вытворчасці айчынных вінаградных він і шампанскага пад брэндам "Амбассадор", а доля на рынку моцных напояў перавысіла 20 %. Ёсць усе падставы думаць, што заводу з райцэнтра адкрываюцца нядрэнныя перспектывы ў такой дынамічнай кампаніі.

## Пастаўскі раён

# Думаюць пра перспектыву

■ Чэслаў Якубовіч.

**У наш няпросты час сапраўднае шчасце для людзей займець перад каляднымі і навагоднімі святамі ўласнае жыллё.**

Акрамя гараджан новы прыгожы двухпавярховы 12-кватэрны дом з усімі зручнасцямі ўпрыгожыў нядаўна аграгарадок Хацілы, што паблізу Пастаў. Побач з галоўным аграномам Іванам Машлякевічам наваселле ў ім справілі маладыя сем'і работнікаў і спецыялістаў гаспадаркі. Навасёламі сталі чатыры шматдзетныя сем'і, з якіх дзве пераехалі сюды жыць і працаваць з Міёрскага раёна, а адна – нават з Казахстана. Гэта гаспадарка багатая, спецыялізуецца на вырошчванні элітнага збожжа і можа сабе дазволіць пачаць узвядзенне яшчэ адной такой шматпавярхоўкі. Мінулы год завяршыў калектыў з чыстым прыбыткам у суме 1,2 млн. новых рублёў, а рэалізавалі зерня, мяса і малака на 9 млн. У раёне ААТ "Хацілы-агра" першымі займелі сучасную ферму з доярамі-робатамі, дзе на кожную карову надоі па 8 тысяч літраў. З дапамогай рэсурсаў Банка развіцця зараз замахнуліся пабудаваць яшчэ адзін сучасны малочны комплекс. Два гады запар хацілаўцы праводзілі мадэрнізацыю сваіх ферм з пераводам статку на беспрывязна-выгульнае ўтрыманне з агульным кармавым сталом. У выніку ў суткі маладняк прыбаўляў у вазе ў сярэднім па кілаграму і болей. У раслінаводстве справы таксама складваюцца выдатна, бо ўжо 2 гады маюць уласны камбікормавы завод, а ўраджайнасць збожжа ў іх ужо была звыш 80 цэнтнераў з кожнага гектара.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 19.01.17 | | | | Пятніца 20.01.17 | | | | Субота 21.01.17 | | | | Нядзеля 22.01.17 | | | | Пан.23.01. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -6 | -6 | -3 | -2 | -1 | -1 | 0 | 0 | -1 | -1 | 0 | -2 | -3 | -3 | 0 | -1 | -3 | -5 | -2 |
| Ціск | 760 | 758 | 756 | 753 | 751 | 751 | 751 | 751 | 749 | 750 | 753 | 756 | 757 | 756 | 757 | 756 | 754 | 750 | 746 |
| Вецер м/сек | 5 Пд-З | 6 Пд-З | 6 Пд-З | 6 Пд-З | 5 З | 3 З | 2 З | 3 З | 4 З | 4 Пн-З | 4 Пн-З | 3 Пн-З | 2 З | 4 З | 5 З | 3 З | 5 Пд-З | 5 Пд-З | 6 З |
| Вільготнасць | 89 | 91 | 89 | 89 | 90 | 92 | 91 | 91 | 91 | 91 | 85 | 89 | 91 | 93 | 88 | 91 | 92 | 91 | 86 |

# Аб самым надзённым

## ПРАЗ ПАЎТАРА ГОДА НА ПАЛЕССІ ЗНОЎ ЗНАЙШЛІ НОВАЕ РАДОВІШЧА НАФТЫ, АЛЕ ЯГО ЗАПАСАЎ НАШЫМ НПЗ ХОПІЦЬ МЕНЕЙ ЧЫМ НА МЕСЯЦ ПРАЦЫ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Нашы нетры ў Прыпяцкай прагіне зараз дастаткова асвоены, на ёй зроблена больш тысячы свідравін, але яны не бяздонныя і не вырашаюць пытанне нашай нацыянальнай бяспекі па энерганосьбітах.**

Як вядома, летась розных супярэчнасцей і спрэчак паміж Беларуссю і Расіяй па розных пытаннях узаемаадносін адчувальна прыбавілася. Акрамя сутычак наконт умоў гандлю, паставак нашых прадуктаў харчавання і перасячэння замежнымі грамадзянамі граніц РФ праз нашу тэрыторыю рэкордна працяглым стаў нафтагазавы канфлікт. Напрыканцы снежня двойчы расійскі пасол і шэраг СМІ заяўлялі, што ён будзе да навагодніх свят вычарпаны. Яны абяцалі, што Расія дасць нашай краіне зніжкі і кампенсацыі на гэтыя энерганосьбіты.

Аднак на справе да гэтага не дайшло, наадварот суседзі вярнулі Беларусі аванс за газ і чакалі поўнай аплаты даўгоў. Прыгразілі нам падаць у суд на Беларусь па газавым пытанні і запатрабавалі ад беларусаў знізіць тарыфы на транзіт расійскай нафты ў 2017 годзе. А вось уплывовы віцэ-прэм'ер урада РФ А. Дварковіч заявіў, што рознагалоссі з беларускімі партнёрамі па газу захоўваюцца. Ужо і замежныя палітолагі пачалі сцвярджаць, што "час крамлёўскай палітыкі да Беларусі "газ узамен на пацалункі" скончыўся", а Крэмль прадоўжыць узмацняць ціск на беларускае кіраўніцтва.

"Русский мир" на самой справе цяпер становіцца іншы, агрэсіўны і цынічны. Выйграць у яго гэту "газавую вайну" наўрад ці атрымаецца, тут патрэбна абодвум бакам пайсці на ўзаемнакарысныя кампрамісы. Спрачацца сур'ёзна з Крамлём – справа няпростая, бо надта ўжо моцна мы залежым ад паводзін суседняй дзяржавы, з яе дапамогай узводзім Беларускую АЭС, у бяспеку гэтай атамнай станцыі ўжо не так верыцца, як раней, пасля шэрагу гучных інцыдэнтаў. Пасля навагодняга віншавання А. Лукашэнкі беларускаму народу стала зразумела, што сёлета ўсіх нас чакаюць новыя выпрабаванні. Але абнадзеіў выраз, што прыкладам для беларусаў павінна стаць сучаснае еўрапейскае аблічча нашай краіны (заўважце, што не расійскі і нават не кітайскі ўзоры і стандарты жыцця).

Апошнім часам пазітыўных навін бывае няшмат, але некалькі такіх усё ж парадавалі. Шматвопытны намеснік прэм'ер-міністра Беларусі У. Сямашка запэўніў, што кампраміс у спрэчцы з Расіяй па пытаннях нафты і газу будзе знойдзены сёлета ў І-м квартале года. Ужо паўстагоддзя на беларускай зямлі, на Палессі здабываюць таксама нафту. Пачынаючы з 1965 года, на адкрытых геолагамі 60 радовішчах выкачалі ўжо больш за 130 млн. тон "чорнага золата". Апошнім часам Беларусь штогод здабывае да 1,6 млн. тон уласнай нафты, а для нацыянальных патрэб яе патрэбна мець штогод да 7 млн. тон.

У пачатку гэтага года на Гомельшчыне адкрылі новае радовішча з запасамі нафты на вялікай глыбіні класу маркі Urals 12,4 млн. барэляў. Зразумела, што гэтага, на жаль, няшмат, хоць пласт нафты там моцны. Калі пойдзе прамысловая здабыча, то такой дадаткова атрыманай сыравіны хопіць для двух нашых гігантаў нафтаперапрацоўкі ў Мазыры і Наваполацку меней чым на адзін месяц працы.

Нашы нетры ў Прыпяцкім прагіне зараз дастаткова асвоены, на іх зроблена больш тысячы свідравін, але яны не бяздонныя і не вырашаюць пытанне нашай нацыянальнай бяспекі па энерганосьбітах.

Па-ранейшаму, мы вымушаны купляць газ і нафту ў Расіі.З іншага боку і Крэмль не можа страціць такога свайго важнейшага саюзніка і суседа як Беларусь. Як падаецца, праз некаторы час бакі дамовяцца і вырашаць гэту набіўшую аскоміну нафтагазавую спрэчку. Тым больш, што зараз цана на нафту вырасла ўпершыню з лета 2015 года да 58 долараў (так супала, што беларусы тады выявілі апошняе радовішча нафты ў Рэчыцкім раёне). Руская таксама зацікаўлены, каб мы паставілі ім сёлета 1 млн. тон гатовых нафтапрадуктаў, хоць для беларусаў гэта не вельмі выгадна. У мінулым годзе наша краіна па міждзяржаўным трансферы павінна была адгрузіць на расійскія прасторы 1,5 млн. тон нафтапрадуктаў, а з-за ўзнікшага канфлікту адправіла суседзям мінімум.

Так што і з гэтага боку абедзве краіны павінны знаходзіць кампраміс па формуле разлікаў за энерганосьбіты. Як падаецца, руская нас крыўдзяць несправядліва, бо, сапраўды, цэны на нафту ў свеце рэзка ўпалі. А чаму мы павінны былі летась плаціць за газ па 132 долары за тысячу кубоў, знаходзячыся разам у ЕАЭС, калі на Смаленшчыне яго цана 58 долараў? Беларусь лічыла такі падыход несправядлівым і недаплачвала, плаціла толькі па 73 USD.

У выніку гэтай працяглай спрэчкі летась экспарт беларускіх нафтапрадуктаў скараціўся амаль на 20 %, а наша краіна недаатрымала ў свой бюджэт амаль 600 млн. долараў. Штогадовы ВУП Беларусі таксама скараціўся летась дзесьці на 2,5 %. Любыя канфлікты і войны рана ці позна заканчваюцца. Гэта газанафтавы канфлікт з Расіяй таксама будзе вырашаны, венціль нам, будзем спадзявацца, не перакрыюць. Іншая справа, што няма галоўнага – роўных умоў гаспадарання ў Еўразійскім эканамічным саюзе, ад таго ён і прабуксоўвае, бо кожная з дзяржаў-членаў цягне коўдру на сябе.

## Дзень за днём

**А. Лукашэнка паабяцаў кардынальна зменшыць праверкі суб'ектаў гаспадарання і бізнесу. Адкрыўся рух па МКАД-2 вакол Мінска. Расія пастaвіць беларусам у I-м квартале 4,5 млн. тон нафты. Дэфіцыт сродкаў Пенсійнага фонду летась пакрыў дзяржбюджэт у суме 750 млн. USD. Больш 3 тысяч дзяржпрадпрыемстваў сталі стратнымі. Парламент не падтрымаў ідэю ўвесці кантроль на граніцы з РФ. У Беларусі правялі кампанію па дыскрэдытацыі Рассельгаснагляду. Структуры МУС Беларусі чакае аптымізацыя. Ва ўсіх абласцях краіны запусцілі сувязь 4 G. Міністэрства адукацыі Беларусі ўзначаліў камуніст Ігар Карпенка.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** Глава МЗС Францыі Жан-Жак Эйро заявіў, што за масавыя забойствы ў Алеппа, панясуць адказнасць усе, хто падтрымлівае рэжым Асада, пачынаючы з Расіі.

**Турцыя.** Расійскі пасол А. Карлаў стаў 4-м па ліку забітым за мяжой у гісторыі рускай дыпламатыі, гэта забойства яшчэ болей абвастрыла няпростую сітуацыю ў Сірыі.

**Германія.** Канцлер А. Меркель заклікала немцаў жыць без страху пасля наезду фуры тэрарыста на людзей на каляднымкірмашы ў Берліне, дзе загінулі 12 чалавек.

**Англія.** Ваенны эксперт А. Гольц папярэдзіў, што супрацьстаянне Расіі і НАТО на Балтыцы і ў Чорным моры будзе ўзмацняцца, любы інцыдэнт можа перарасці ў трагедыю.

**Украіна.** Міжнародная арганізацыя праваабаронцаў Amnesty International заявіла, што Расія пераследуе не толькі абшчыну татар у Крыме, але і ўсіх, хто крытыкуе Крэмль.

**Расія.** Прэс-сакратар прэзідэнта РФ Д. Пяскоў пацвердзіў, што на прыёме ў Крамлі быў камандзір рускіх наёмнікаў "Вагнер", хоць закон за "наёмніцтва" карае да 15 год турмы.

**Украіна.** Першы глава "ЛНР" В. Болатаў прызнаўся, што сярод кіраўнікоў сепаратыстаў існуюць пастаянныя канфлікты, яны знішчаюць фізічна сваіх магчымых канкурэнтаў.

**Сірыя.** Пры невядомых абставінах загінуў камандзір батальёна расійскіх дэсантнікаў маёр Санал Санчыраў, тысячы людзей мерзлі ў дашчэнт разбураным усходнім Алеппа.

**Зімбабвэ.** Правячая партыя вылучыла 92-гадовага Роберта Мугабэ зноў на пасаду прэзідэнта, за 36 гадоў кіравання квітнеючая краіна стала найбяднейшай у Афрыцы.

**Польшча.** Міністр абароны А. Мацярэвіч заявіў, што за рэпрэсіі і ваенныя злачынствы супраць народа пазбавяць званняў генералаў эксміністраў В. Ярузельскага і Т. Кішчака.

**Расія.** У РФ, як паведаміла газета "Ведомости", працягвае расці беднасць на 5 % за год, даходы ніжэй пражытковага мінімуму маюць 18.8 млн. расіян пры стагнацыі эканомікі.

**Арменія**. Усіх працуючых жыхароў краіны абавязалі плаціць штомесяц па 2 долары ў фонд дапамогі сем'ям загінуўшых ваеннаслужачых і ваенным, стаўшым інвалідамі.

**Польшча.** Глава МЗС В. Вашчыкоўскі пацвердзіў, што альтэрнатыўны "Белсату" мог бы стаць тэлеканал "Polonia", каб беларусы маглі бачыць, як выглядае жыццё ў іх суседзяў.

**Расія.** Міжнародная федэрацыя бабслея і скелетона адабрала ў Сочы правядзенне чэмпіяната свету, WADA абвінаваціла 31 расійскага біятланіста ў прыёме допінгу.

**Чэхія.** Прэзідэнт Саюза біятлона краіны Іржы Хамза і калегі з Нарвегіі, Канады, ЗША запатрабавалі пазбавіць Расію права праводзіць міжнародныя спаборніцтвы па біятлоне.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Эканаміст Л. Марголін заявіў, што нафтагазавы канфлікт з Масквой існуе з-за таго, што РФ губляе інтарэс да Беларусі як да надзейнага саюзніка і інвестыцыйнага партнёра.

**Гомель.** КДБ Беларусі за атрыманне да 200 тысяч долараў хабару ад камерцыйных структур затрымаў групу службовых асоб "Гомсельмаша", МТЗ, БелАЗа і МАЗа.

**Мінск.** Рускія вядуць сябе тупа, як заявіў эканаміст Л. Заіка, і калі яны ўвядуць жорсткія квоты на наша малако, то Беларусі проста належыць выйсці з інтэграцыі з Расіяй.

**Брэст.** Расійская чыгунка запусціла новы хуткасны цягнік па маршруце Масква-Берлін, на мясцовым вакзале на еўрапейскія памеры калёсных пар ён пераходзіць за 20 мінут.

**Мінск.** Экс-глава Нацбанка С. Багданкевіч заявіў, што ў 2017 годзе сярэдняй зарплаты 500 USD не будзе, улады не пойдуць на друкаванне пустых грошай, бо ёсць сумны вопыт.

**Гінск.** Прафесар М. Кадыраў папярэдзіў, што айчынная эканоміка ў крызісе, нават перад калапсам з рызыкай высокай верагоднасці абвалу, даўно наспелі неабходныя рэформы.

**Шчучын.** Каля вёскі Ражанка ТАА "Аграхімсвет" завяршыла будаўніцтва 3-й па ліку ў раёне сонечнай электрастанцыі магутнасцю 1,15 МВт электраэнергіі з замежных модуляў.

**Кобрын.** За некалькі тыдняў у вёсцы Павіцце зграя ваўкоў загрызла больш 15 сабак, драпежнікаў цяжка знішчыць, бо нельга страляць у лясной прыгранічнай зоне.

**Мінск.** Дзеячаў, якія падтрымліваюць "русский мир", папярэдзіў палітолаг В. Карбалевіч, у краіне вельмі многа, але шэраг з іх пачалі жорстка вучыць "правільнай дружбе" з Расіяй.

**Валожын.** Суд Маладзечанскага раёна пакараў 8 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці экс-намесніка старшыні райвыканкама І. Ляшкевіча за карупцыю пры здачы сацаб'екта.

**Мінск.** Многія рэформы, як заявіў эканаміст цэнтра BEROS А. Мазоль, патрэбна было правесці 15-20 гадоў назад, бо бедныя рэгіёны краіны ў крызісе стануць яшчэ бядней.

**Маларыта.** У вёсцы Гвозніца міліцыя затрымала нецвярозага 41-гадовага непрацуючага мужчыну, які забіў маці-пенсіянерку толькі за тое, што яна выпіла ягоную бутэльку віна.

**Дзяржынск.** Два жыхары раёна напалі 34-гадовую жанчыну-прадаўца, забралі ў яе ключы ад крамы і абакралі потым больш чым на 300 рублёў магазін у вёсцы Нявелічы.

**Мінск.** Пасля свайго перавыбрання зноў старшынёй Цэнтрвыбаркама Л. Ярмошына заявіла, што яна яшчэ занадта маладая, каб сядзець на пенсіі і вязаць шкарпэткі.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Глава вобласці М. Шарстнёў падчас "прамой лініі" паабяцаў работнікам Талачынскага элеватара захаваць прадпрыемству статус юрасобы ў новым аграхолдынгу.

**Дуброўна.** На падрыхтоўку аб'ектаў райцэнтра да абласнога кірмаша працаўнікоў вёскі "Дажынкі-2017" з бюджэту вобласці выдзеліді сродкі ў памеры 12,6 млн. новых рублёў.

**Пастаўы.** Многіх жыхароў раёна парадавала вестка аб арышце за хабар бізнесмена, які пачаў нахабна ўзводзіць царкву ва ўнікальным месцы на беразе возера Балдук.

**Наваполацк.** У горадзе пасля маштабнай рэканструкцыі ўрачыста адкрылі самы буйны ў вобласці Палац воднага спорту "Садко", у ім можна праводзіць і міжнародныя старты.

**Лёзна.** Дырэктара ААТ "Новая Дубрава-агра" Д. Ермакова звольнілі з пасады па Дэкрэту № 5, камітэт Дзяржкантролю выявіў там значны матэрыяльны ўрон па віне кіраўніка.

**Талачын.** Пасля капітальнай рэканструкцыі СШ № 2 райцэнтра, як заявіў глава вобласці М. Шарстнёў, стала прыкладам таго, якімі павінны стаць школы заўтрашняга дня.

**Шаркаўшчына.** Раён наведала дэлегацыя Зарасайскагараённагасамакіравання Літвы і падпісала дагавор аб намерах аб супрацоўніцтве і ўмацаванні сяброўскіх сувязей.

**Верхнядзвінск.** Па просьбе ўлад сапёры МНС узарвалі ў цэнтры горада аварыйны кінатэатр, які не эксплуатаваўся з 2008 года і ўяўляў пагрозу найперш для дзяцей.

**Віцебск.** Суд пакараў 4 гадамі турмы галоўнага інжынера аўтасервіса за атрыманне хабару ад кіроўцаў за вырашэнне пытанняў з праходжаннем тэхагляду аўтамабіляў.

**Докшыцы.** Відэаролік, зняты і запісаны работнікамі Параф'янаўскай сельскай бібліятэкі, стаў адным з пераможцаў абласнога конкурсу "Чытаем Багдановіча разам".

**Гарадок.** Дадатковы школьны аўтобус перадалі Пальмінскай СШ, бо да яе далучылі Кабішчанскую школу-сад і сталі вазіць па вучобу 40 дзетак з трох аддаленых вёсак раёна.

**Глыбокае**. Напрыканцы працоўнага дня ў вёсцы Капыльшчына па невядомых прычынах загарэлася лазня, агонь пашкодзіў дах, былі закопчаны сцены пасля тушэння пажару.

**Браслаў.** За нараджэнне і выхаванне 5 і болей дзяцей ордэнам Маці ўзнагародзілі паштальёна РВПС Ганну Нужыну і работніцу яслі-сада № 3 райцэнтра Галіну Пабяржыну.

**Пастаўы.** Міліцыя затрымала 30-гадовага жыхара райцэнтра, які падманам пазычыў у знаёмых 12 тысяч рублёў, а грошы патраціў на стаўкі ў букмекерскіх канторах.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Ці згодныя вы з тым, што дармаеды павінны плаціць падатак?

**2 красавіка 2015 года кіраўнік краіны падпісаў Дэкрэт №3 "Аб прадухіленні сацыяльнага ўтрыманства", які ва ўсёй краіне называюць дэкрэтам аб дармаедах. Праз год урад унёс у яго некаторыя змены. Зараз падатковая направіла каля 400 тысяч так званых "пісьмаў шчасця" з патрабаваннем заплаціць гэты падатак. Мы пацікавіліся ў людзей, што яны думаюць наконт гэтага падатку.**



**Генадзь Плавінскі, пенсіянер, Глыбокае:**

– Такога, напэўна, нідзе ў свеце няма, беспрацоўных наадварот падтрымліваюць. Трэба дапамагчы чалавеку, каб ён на ногі стаў. Ведаю, што шмат у якіх краінах беспрацоўныя атрымліваюць неблагую падтрымку, можна нават і пражыць на гэтыя грошы, але там мець працу – гэта справа гонару. А быць утрыманцамі людзі самі не хочуць.



**Марыя Тупека, эканаміст, в. Дзеркаўшчына:**

Я гэта падтрымліваю, тое, што гэты падатак уводзяць. Я лічу, што нашы людзі павінны неяк удзельнічаць у фінансаванні дзяржаўных расходаў. Тыя, хто зарабляюць нелегальным шляхам, яны ж за нешта жывуць. А яны ж карыстаюцца тымі выгодамі, што і я: грамадскім транспартам, той жа паліклінікай, бальніцай, камунальнымі паслугамі, дзеці шмат у каго ў школу хлодзяць. Таму я за.



**Жана Лупач, хатняя гаспадыння, Глыбокае:**

– Думаю, што гэта няправільна. Розныя сітуацыі ў людзей бываюць. Нехта не можа працу знайсці, такую як хоча. Асабліва зараз, у наш час, калі вельмі складана працу ў горадзе знайсці, не кажучы ўжо пра вёску. Трэба кіраўнікам думаць, як стварыць больш працоўных месцаў у краіне, каб чалавек мог выбраць. А з п'яніц дзяржава і так нічога не возьме, бо яны часам не маюць і хлеба за што купіць.



**Людміла Ардынская, пенсіянерка, в. Радзюкі:**

– Я лічу гэта няправільным. Можа гэта б было і правільна, каб людзям было дастаткова працоўных месцаў. Як яны могуць уладкавацца, калі няма працы. Я ведаю аднаго хлопца, ён не п'е. І вось ужо колькі часу не можа нідзе на працу ўладкавацца. Нават грузчыкам у Шаркаўшчыне няма месцаў. Ну, атрымае чалавек гэта "пісьмо шчасця", а дзе ён возьме грошы заплаціць гэты падатак. Таму, я лічу, спачатку трэба людзей забяспечыць працай, а потым глядзець, хто ад гэтай працы ўхіляецца. І ўжо потым да гэтых людзей прымаць нейкія меры. А не да ўсіх без разбору. Ды і хто ездзіць у Расію ці яшчэ куды далей на заробкі, кідае тут сям'ю, гэта ён робіць не ад добрага жыцця.



**Юля Бука, гаспадыня аграсядзібы, в. Валодзькава:**

– Я сама нядаўна пачула, што магу атрымаць гэты статус. Калі я не буду працаваць і калі буду мець гасцей менш за 183 дні ў год, то буду лічыцца дармаедкай. А мы летам вячэраем недзе пасля дзесяці, спаць кладземся каля дванаццаці, а ўстаём – яшчэ шасці няма, бо трэба карову папаіць, падаіць, вывесці яе на поле. І мы будзем лічыцца дармаедамі?! А зараз гасцей менш прыязджае, дарогі бываюць дрэнныя, грошай зараз у людзей менш. І я буду яшчэ вінаватая, што дармаедка. Як мне тады жыць?!

***Апытвалі Зміцер Лупач і Леанід Юрык***

Уладзімір Скрабатун

# У Валодзькаве "жанілі Цярэшку"

**Даўней у нашай беларускай вёсцы не толькі бульбу садзілі, жыта сеялі ды каноплю вольна вырошчвалі! Гэтак, як добра працавалі, так і цэлай вёскай весела адпачывалі!**

Мы ледзьве не згубілі цэлы пласт нацыянальнай культуры! Можа і згубілі б канчаткова, але сёння і Беларусь ужо стала іншай. Прыходзіць разуменне, асабліва ў пакалення, якое нарадзілася ў незалежнай краіне, што і мова нашая прыгожая, і гісторыя ў нас вялікая, і культура наша адметная!

Вельмі цудоўна, што і ў нас на Глыбоччыне ёсць нямала людзей, якія адраджаюць нашыя даўнія традыцыі! Віталь Воранаў паставіў на мэце адрадзіць дударства на Глыбоччыне, каб у нашым горадзе праводзіўся Усебеларускі Дударскі Фэст! А вось Тацццяна Смоткіна, старшыня глыбоцкай філіі Беларускай Асацыяцыі Журналістаў (БАЖ) узялася за адраджэнне, а можна сказаць – за вяртанне старадаўняга беларускага абраду "Жаніцьба Цярэшкі" на Глыбоччыне.

Некалі аўтар гэтых радкоў – дваццацьтрыццаць гадоў таму – цікавіўся ў 80-90-гадовых старажылаў, як людзі даўней жылі ў вёсках, чым займаліся, як адпачывалі...

*– У Прыперна "Цярэшку жанілі"!–* сцвярджаў Пятро Вярцінскі.

Пытаю Яўгенію Гапанёнак, нашую сталую чытачку з Варганоў, якая завітала да нас працягнуць рэдакцыйную падпіску: "Ці "жанілі" ў вашых Варганах калісьці "Цярэшку"?"

*– А як жа! "Жанілі Цярэшку"! Праўда, даўнавата гэта было – у 1950-я. Я малая была, але памятаю. Недзе аж да 1960-х жанілі. Цяпер ужо не жэняць...*

Наогул, што гэта за абрад такі – "Жаніцьба Цярэшкі"? Цяпер дзяўчыне ці мальцу, каб пазнаёміцца і знайсці сваю палавінку, ладзяць у сельскім клубе ці гарадскім Доме культуры вечары, танцы, дыскатэкі... Так, шаноўнае спадарства, Вы зразумелі – гэта адзін са спосабаў пазнаёміцца маладым людзям. А даўней не было дыскатэк. Была "Жаніцьба Цярэшкі". Цэлы забаўляльны абрад, з гульнямі, танцамі, загадкамі, жартамі. Дзе тут, у ролі вядоўцаў – уяўныя або і рэальныя "бацька" і "маці" дапамагаюць "сыночку Ванечку (ці Валодзечку) абраць сабе парачку".

Тады, у даўнія часы, гэта не выглядала пастановачна, як цяпер, тады ўсё было натуральна, і, як меркавалася, насамрэч, сыночак Ванечка абярэ сабе парачку, напрыклад, Сонечку! Яны пажэняцца!

А што адраджаем сёння, хоць і пастановачна? Свята! Яго можна паказаць усім, хто цэніць беларускую культуру, запрасіць гасцей здалёку і зблізку, сустрэцца са старымі знаёмымі і сябрамі, якія таксама, імаверна, паўдзельнічаюць у гэтай імпрэзе. Свята для саміх сябе, якое зладзілі дарослыя – замужнія і жанатыя – цёткі і дзядзькі, якія маюць ужо і сваіх дзяцей.



**Галляш Сялява з Браслава, сябра Глыбоцкай філіі БАЖа, наладжвае дуду.**



**Вішанька, спадарства! "Нявеста" стаіць на зэдліку. "Жаніху" трэба з разбегу апёрціся на рукі, што пакладзеныя на плячах двух іншых "жаніхоў", падпрыгнуць і даць "буську" ў вусны сваёй "нявесце". Не ўсім шанцавала з першага разу, некаторыя змаглі толькі з трэцяй спробы!**

Першы раз абрад "Жаніцьба Цярэшкі" Тацццяна Смоткіна арганізавала роўна год таму – на Стары Новы год у малой зале Гарадскога цэнтра культуры. Прыйшло паўдзельнічаць і паглядзець нямала людзей, і зала падалася замалай! На гэты раз рашылі правесці "Жаніцьбу Цярэшкі" ў большай зале, на аграсядзібе Юлі Букі "Родны кут" у Валодзькаве. Але і вялікая вясковая хата сталася цяпер замалай, бо сабралася яшчэ больш людзей! Прыехаў з Браслава Галляш Сялява, журналіст, краязнаўца, дудар і сябра Глыбоцкай філіі БАЖа, прыехалі журналісты з Шаркоўшчыны, завітала полацкая грамада – сябры тамтэйшай філіі БАЖа, юрысты, краязнаўцы, і проста, за кампанію з імі, іх сваякі: жонкі і дзеці. Натуральна ж, удзельнічалі і глыбачане. Самая прадстаўнічая каманда – з Лепеля. Менавіта за сцэнар правядзення абраду "Жаніцьба Цярэшкі" ўзяты лепельскі варыянт (бо іншага проста няма ў нашым рэгіёне). Лепельчане першымі ў нашым Прыдзвінскім краі адрадзілі гэты абрад: яны ездзілі па вёсках, шукалі бабулек, апытвалі, запісвалі абрадавыя песні і саму хаду правядзення абраду. Так нарадзіўся сцэнар, па якім на Лепельшчыне ўжо колькі гадоў запар праводзяць абрад "Жаніцьба Цярэшкі". Сама лепельская каманда з'яўляецца самадастатковай для правядзення падобнай імпрэзы, бо мае не толькі сцэнар, але і музыкаў з адпаведнымі інструментамі: дудой, скрыпкай і рознымі відамі ўдарных інструментаў, апроч таго, выканаўцы маюць і беларускія народныя строі (адзенне). Таму "бацькамі" ў глыбоцкай "Цярэшцы" былі лепельчане – Васіль Шкіндзер і Наталля Міранові ч.

Пасля "Жаніцьбы Цярэшкі" адбылася сяброўская вячэра. Кожны меў магчымасць прэзентаваць самога сябе. Адзін з палачанаў прадставіўся ўніятам. Хлопец з Лепеля (ураджэнец Докшыцаў) прадставіўся ліцвінам, які любіць беларускую мову, шануе беларускую культуру і гісторыю. Наталля Міранові ч з Лепельшчыны, настаўніца беларускай мовы і літаратуры ў сельскай школе, якая грала ролю вядоўцы, г.зн "маці", сказала: *"Спачатку я шкадавала, што па размеркаванні патрапіла не ў гарадскую школу, а сельскую. Цяпер, наадварот, рада! Менавіта сельскія вучні натуральна ўспрымаюць беларускую мову і літаратуру. Мае вучні не саромяцца апранаць строі з вышыванкамі, удзельнічаць у тэатралізаваных беларускіх пастаноўках! Яны ходзяць па бабульках – запісваюць успаміны".*

Усцешна тое, што сярод прысутных была і адна спадарыня, якая прадставілася метадыстам аддзела культуры. Тут была магчымасць навочна ўбачыць забыты абрад, паўдзельнічаць самой, а самае галоўнае – можна скарыстаць досвед у сваёй працы!

Дарэчы, хто не ведае, дзявочае прозвішча першай жанчыны-касманаўта Валянціны Церашковай, насамрэч, – Цярэшка. Яе бацькі – з Беларусі. Сама яна пра гэта публічна аднойчы паведаміла, як і тое, што не адразу змагла перайсці з беларускай на рускую мову.



**А Лявоніху Лявон палюбіў, Лявонісе чаравічкі купіў...**



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, пенсіянер, г. Дзісна*

# Свабода і вышэйшы сэнс жыцця




Свабода – незалежнасць, адсутнасць прыцясненняў і абмежаванняў, якія звязваюць грамадска-палітычнае жыццё і дзейнасць якоганебудзь класа, усяго грамадства або яго членаў. У свабоды заўсёды ёсць два вымярэнні: тое, ад чаго чалавек хоча вызваліцца, і тое, для чаго чалавек хоча вызваліцца. Пачынаецца ўсё заўсёды з адмаўлення – здымаюцца ўсе магчымыя забароны, абмежаванні. Але ў наступны момант непазбежна ўзнікае пытанне: для чаго гэта патрэбна, што я хачу, што я зараз магу? Натуральна, чым мацней прыгнечанне, тым мацней хоча чалавек ад яго пазбавіцца, тым актыўней, энергічней вызваляецца ад путаў. У кожнага чалавека, у залежнасці ад таго, якія ў яго жыццёвыя мэты, якія путы перашкаджаюць яму выконваць гэтыя мэты. Размова пойдзе аб свабодзе, якая садзейнічае чалавеку здзяйсняць вышэйшы сэнс жыцця – стварэнне.

Нам не дадзена ведаць дакладна, як складзецца будучыня нашага грамадства і ў цэлым чалавецтва, можна сказаць толькі: будзе тое, што людзі самі створаць. Калі жыццё розных згуртаванняў жывёл рухаецца ў адных і тых жа формах, не параджаючы нічога новага, то чалавечае грамадства развіваецца і мае гісторыю. Дзякуючы свайму розуму і свабодзе чалавек можа ў той ці іншай меры ўздзейнічаць на развіццё падзей, праектаваць будучыню, хоць далёка не заўсёды дасягае жаданых вынікаў.

У якім грамадстве мы хацелі б жыць: у тым, дзе ўсё ёсць у дастатку, але ёсць варожасць, карыслівасць, зайдрасць, гвалт над слабай, забойства, або ў тым, дзе невялікі дастатак, але затое ёсць згода і ўзаемаразуменне, клопат і ўзаемападтрымка? Гэта праблема асобая, але нам важна вызначыць, чаму аддаць перавагу. Ад ідэалаў адказвацца нельга, інакш узровень нашага псіхічнага жыцця падае ніжэй адзнакі "чалавек". Губляе сэнс слова "свабода". А які ўнутраны яго духоўны свет?

Асноўнымі арыентырамі ў духоўным самавызначэнні чалавека з'яўляецца дабро, ісціна і прыгажосць. Аднак, у раннім узросце мы пачынаем разумець, што свет пабудаваны не так ужо разумна і справядліва, бачым абман і крывадушнасць, скупасць і баязлівасць, даведваемся аб войнах, забойствах, грабяжах.

Свабода, якая не ведае берагоў, можа спакусіць, можа паказацца прывабнай эстэтычна, асабліва ў супастаўленні з шэрасцю, унутранай звязанасцю, падпарадкаваннем забабонам, якіх, канечне, вялікае мноства. Але пры блізкім знаёмстве з такой свабодай выяўляецца яе пустата, у ёй адна толькі сіла адмаўлення ад усякіх межаў.

Рабіндрант Тагор, індыйскі паэт і грамадскі дзеяч, казаў: "Чалавек горш звера, калі ён звер". Тут ужо не да свабоды. Аўгуст Бебель сцвярджае: "Не можа быць апраўдана ніякая няроўнасць, акрамя той, якая створана прыродай ў выглядзе рознасці паміж асобнымі людзьмі". З чаго вынікае, што свабода павінна існаваць у справядлівым грамадстве. Калі праўды няма наогул, то што ж мяне можа стрымліваць? Страх перад выкрыццём? А калі ніхто не даведаецца? Заўважым, што калі кажуць, што "няма праўды", то маюць на ўвазе толькі тое, што людзі не жывуць па праўдзе і не нясуць за гэта пакаранне. Аднак, праўда ўсё ж гэтым самым прызнаецца: яна ёсць, але яе гоняць. Пачуццё праўды і справядлівасці ёсць у кожным нармальным чалавеку. Аднак вельмі многія разважаюць так: я прызнаю, што ёсць дабро і праўда, але вось калі ўсе людзі будуць жыць па сумленні, тады і я буду, а пакуль жа стану рабіць так, як большасць. Чаму я павінен ахвяраваць сабой, быць чэсным, але бедным, калі іншыя нічым не грэбуюць і нікога не саромеюцца? Яны адчуваюць сябе свабоднымі людзьмі, а чым я горшы?

Сэнс жыцця людзі могуць знаходзіць у розным, хто ў чым, аднак вышэйшы сэнс існавання чалавека і чалавечага грамадства адзін, маральны. Ён заключаецца ў прытрымліванні дабру, сапраўдным шляху жыцця. На шляху чалавек адчувае і ўсведамляе, што ён сапраўды жыве, яго дзеянні суправаджаюцца пачуццём унутранай неабходнасці. Гэта пачуццё неабходнасці не пазбаўляе яго свабоды, а наадварот, падымае яго на тую вышыню, на якой і магчыма сапраўдная свабода, а не проста сваявольства, капрызы, самавольства. Свабода і патрэбна для таго, каб жыць сапраўдным жыццём. Яна не мэта сама па сабе, а сродак. Сапраўднае жыццё знаходзіцца ў творчасці. Гэта зварот чалавека да самога сябе. У творчасці заўсёды ёсць свабода.

Пераарыентацыя чалавецтва, выпрацоўка новага жыццяразумення з'яўляецца галоўнай задачай, якую нельга рашыць ні эканамічнымі сродкамі, ні ператварэннем грамадства ў казарму. Ажыццяўленне гэтай задачы ляжа на плечы ўступаючых у жыццё пакаленняў, якія павінны пераадолець вялізную сілу махавіка тэхнагеннай цывілізацыі і традыцыйнай інерцыі. Трагізм сітуацыі ўзмацняецца тым, што людзі ўсведамляюць, што рухаюцца не туды, але прадаўжаюць рухацца. Як у свой час заўважыў пратапоп Аввакум: "Самі бачаць, што дуруюць, а адстаць ад дурня не хочуць: азмрочыў д'ябал – што на іх наракаць".

Свабода складае аснову духоўнага жыцця чалавека, любоў з'яўляецца яе жывым, пранікаючым нервам. Вышэйшы сэнс асабістага суіснавання можа быць толькі ў руху да той Праўды, у якой злучаюцца Дабро, Існасць і Прыгажосць. Духоўнае адраджэнне і ператварэнне чалавецтва не толькі магчыма, але і неабходна. А на гэтай ніве ў нас працы непачаты край.

## Змяненні ў Кодэксе аб адукацыі: у школу – з 5 гадоў, у класах – па 30 вучняў

**Міністэрства адукацыі Беларусі агучыла змяненні, якія плануюць унесці ў новую рэдакцыю Кодэкса аб адукацыі. Адпаведная інфармацыя размешчана на сайце "СБ-Беларусь сегодня".**

У адпаведнасці з новай рэдакцыяй кодэкса, школьнікі змогуць ісці ў першы клас з 5 гадоў. Цяпер у бацькоў нямала нараканняў на тое, што першакласнікам можа стаць толькі той, каму на пачатак вучэбнага года ёсць 6 гадоў або спаўняецца да 30 верасня. Акрамя гэтага, факультатывы ў суботу дазволяць для вучняў не толькі 9-11 класаў, але і для 5-8-х класаў. Як паведамляецца, напаўняльнасць класаў павялічаць да 30 вучняў. Цяпер у сярэдняй школе максімум 25 вучняў у класе, а ў ліцэях і гімназіях - 20. Пры гэтым канчатковае рашэнне аб напаўняльнасці класаў застаецца за сназвальнікам навучальнай установы, які павінен улічыць усе абставіны: колькасць дзяцей у мікраёне, санітарныя нормы. Як пракаменціравала намеснік начальніка ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Мінадукацыі Ірына Каржова, у новай рэдакцыі кодэкса з'явіцца норма аб профільнай адукацыі, плануецца скараціць і колькасць відаў устаноў адукацыі. Размова ідзе аб вячэрніх школах, вучэбна-вытворчых камбінатах і комплексах "дзіцячы сад - школа". Што датычыцца апошніх, за ўстановамі агульнай сярэдняй адукацыі пры гэтым застанецца права рэалізоўваць праграмы дашкольнай адукацыі.

*БелТА.*




## Штраф да 550 еўра пагражае замежнікам, якія прабылі ў Беларусі без візы даўжэй за 5 дзён

**Парушэнне замежнымі грамадзянамі пяцідзённага тэрміну знаходжання ў Беларусі без візы пацягне папярэджанне або накладанне штрафу. Пра гэта заявіў начальнік Дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі Міністэрства ўнутраных спраў Аляксей Бягун на брыфінгу ў прэс-цэнтры БелТА.**

«Гэта парушэнне заканадаўства аб прававым становішчы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, што прадугледжвае адміністрацыйную адказнасць па артыкуле 23.55 КаАП Беларусі і цягне накладанне адміністрацыйнага спагнання ў выглядзе штрафу, так і ў выглядзе папярэджання з дэпартацыяй або без яе. Рашэнне будзе прымаць службовая асоба, упаўнаважаная на гэта», — растлумачыў Аляксей Бягун.

Пры разглядзе сітуацый будуць улічвацца і непрадбачаныя абставіны, у якіх могуць аказацца замежнікі. Адзін з такіх прыкладаў — калі чалавек трапляе ў бальніцу. У гэтай сітуацыі неабходна прад'явіць дакумент, які пацвярджае гэты факт.

*БелТА.*

# Лічынкі хіранамід як крыніца прыбытку

**Не кожны рыбак ведае, што лічынкі хіранамід ці лічынкі камароў-званцоў - гэта не што іншае, як звычайны матыль, які выкарыстоўваецца паўсюдна рыбакамі. Сярод аматараў падлёднай лоўлі попыт на матыля ўзімку досыць высокі. І гэта вытлумачальна, бо матыль з'яўляецца адной з лепшых прынад для лоўлі рыбы.**

■ **В.Е. Катовіч,**
*старэйшы дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслиннага свету.*



Купляючы матыля, мала хто задумваецца пра законнасць яго здабычы. На жаль, не рэдкія выпадкі, калі лічынак здабываюць з перавышэннем усталяваных заканадаўствам нормаў для далейшага іх продажу. У асобных выпадках маса здабытых лічынак адным парушальнікам у суткі дасягае 10 кг, што перавышае сутачную норму ў 100 раз. Ці наўрад такая колькасць прынады патрабуецца для ўласных патрэб рыбака.

**За незаконную здабычу матыля – штраф 6 б.в за 1 кг**

У адпаведнасці з правіламі здабычы, нарыхтоўкі і (ці) закупы дзікіх жывёльных, якія не адносяцца да аб'ектаў палявання і рыбалоўства, зацверджаных пастановай Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 02.06.2006 № 699 сутачная норма здабычы лічынак хіранамід грамадзянамі ў асабістых мэтах складае 0,1 кг. Акрамя таго, матыля забараняецца здабываць у цёмны час сутак, а таксама падчас нерасту асноўных відаў рыб. Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 08.12.2005 №580 усталявана такса за незаконную здабычу матыля ў памеры 6 базавых велічынь за кілаграм.

Менавіта попыт на матыля падахвочвае асобных грамадзян парушаць закон.

Санкцыя артыкула па ч.4 арт. 15.32 КоАП Рэспублікі Беларусь прадугледжвае накладанне штрафу ў памеры да 20 базавых велічынь.

Варта адзначыць, што працэс здабычы матыля досыць няпросты і патрабуе значных часавых выдаткаў, пэўных ведаў тэхналогіі самай здабычы і яго далейшага захоўвання.

Паважаныя рыбаловы, выконвайце правілы, удалай усім рыбалкі.

Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства вы можаце паведаміць на тэлефон даверу 8(02156)2-86-70 ці на мабільныя тэлефоны: МТС 897-23-02, МТС 890-55-28, МТС 249-45-49, МТС 645-66-78.



# Пяты год сабака чакае свайго гаспадара


Фота: Андрэй Шаўлюга

**Яго часта можна сустрэць па дарозе з Докшыц на станцыю «Параф'янава». Часамі ён на некаторы час знікае, потым з'яўляецца зноў. Мясцовыя людзі распавядаюць, што былі неаднаразовыя спробы забраць сабаку да сябе, бо ўсім падабаецца яго вернасць. Але блізка да сябе ён нікога не падпускае.**

Калі хтосьці прывозіць сабаку яду, то пакідае яе на зямлі і ад'язджае. Толькі пасля гэтага жывёла падыходзіць да яе.

Распавядае сястра Марына Ескевіч, якая служыць у кляштары ў Параф'янаве:

— *Людзі кажуць, што бачылі, як гаспадар быў выкінуў гэтага сабаку з машыны. Але ён застаўся верным свайму гаспадару. Сустракае ўсе машыны і глядзіць вадзіцелям у вочы. Людзі яго кормяць, але блізка да сябе жывёла нікога не падпускае, гаўкае.*

Па словах сястры Марыны, хтосьці даў быў абвестку ў інтэрнэце, каб гаспадар забраў сабаку. І той нібыта прыязджаў, але жывёлы на той час не было. Бо калі раней ён кожны дзень стаяў на дарозе, то зараз часамі знікае. Але потым з'яўляецца зноў.

— *Усе ў нас пра яго ведаюць, і ўсе яму спачуваюць,* — кажа сястра Марына. — *І дарослыя, і дзеці, нават п'яніцы — усе любяць гэтага сабаку за яго вернасць.*

Хочацца спадзявацца, што гаспадар прачытае гэты артыкул і яшчэ раз прыедзе, каб забраць свайго сябра, які восьвось ужо пяты год яго чакае.

*Паводле kraj.by*

# У Докшыцкім раёне затрымалі браканьера, які паляваў у Бярэзінскім біясферным запаведніку

**На тэрыторыі Бярэзінскага біясфернага запаведніка жыхар Докшыцкага раёна ўсталяваў 5 петляў для здабычы капытных, у адну з іх трапіўся лось.**

Інспектары, якія выявілі рэшткі сахатага побач з пятлёй, па слядах выйшлі да аднаму з хатаў у вёсцы Слабада. У хаце яны выявілі нож са слядамі крыві і поўсці, куртку з крывавымі плямамі і іншыя доказы – усё гэта было канфіскавана для экспертызы.

Калі яго віна будзе даказана, мужчыну прыйдзецца пакрыць шкоду за незаконна здабытага на асоба ахоўваемай тэрыторыі лася – 20 700 рублёў, паведамляе прэс-служба Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і раслиннага свету.

*ННВ.*



